*Першы мітынг гарачай восені (стар. 2)*

*Кот Баюн. Усё прыдумана, акрамя шклоўскага ідала (стар. 5)*

# СВАБОДА


Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000



Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441



6 верасня 1996 г. № 67 Кошт свабодны


## Адміністрацыя прэзідэнта спрабуе прыкрыць незалежную прэсу рукамі падаткавай інспекцыі

Ужо арыштаваныя банкаўскія рахункі пяці газет: «Белорусский рынок», «БДГ», «Имя», «Белорусская газета» і СВАБОДА. Усім выданням выставілі штрафныя санкцыі — у асноўным за тое, нібыта рэдакцыі неправамерна адносілі на свае затраты кошт спісаных газет, а таксама распаўсюджаных бясплатна ў мэтах рэкламы. Апошнім, дарэчы, актыўна займалася СВАБОДА. Пра гэта ведаюць тысячы мінчан, якія час ад часу знаходзілі ў сваіх паштовых скрынках нашую газету. Многія з іх потым станавіліся нашымі пастаяннымі чытачамі.

Падатковая інспекцыя зачапілася за гэта, як тапелец за саломінку, — калі няма рэальных парушэнняў, вырашылі прыдумаць. Праверкай, якую вядуць у СВАБОДЗЕ другі тыдзень аж восем інспектараў, кіруе непасрэдна Галоўная падаткавая інспекцыя РБ. Па сваіх крыніцах мы высветлілі, што яна атрымала тэрміновы загад з адміністрацыі прэзідэнта любымі спосабамі стварыць фінансавыя перашкоды для недзяржаўнай прэсы. На чарзе — праверка «Народнай волі» і іншых незалежных выданняў.

Зрэшты, нам не прывыкаць. За апошнія два гады рахункі СВАБОДЫ арыштоўваюцца ўжо чацвёрты раз. А мы, як бачыце, выходзілі і выходзім у свет. Безумоўна, рэпрэсіі, падобныя цяперашнім, ствараюць для нас дадатковыя праблемы. Акрамя таго, улады разлічваюць, што гэта напалохае нашых чатачоў і ў СВАБОДЫ стане менш падпісчыкаў (а продаж газеты праз кіёскі можна лёгка забараніць у любы момант). Можа здарыцца так, што газету будуць атрымліваць толькі падпісчыкі. Таму нагадваем, што да заканчэння падпіснай кампаніі засталося некалькі дзён.

**Рэдакцыя СВАБОДЫ**

## Пачаўся збор подпісаў дэпутатаў за імпічмент прэзідэнту

*Некалькі дзесяткаў парламентарыяў ужо паставілі свае подпісы*

Нагадаем, што паводле Канстытуцыі для пастаноўкі гэтага пытання неабходна 70 подпісаў дэпутатаў. Потым сваё заключэнне дае Канстытуцыйны суд. Аднак канчатковае рашэнне аб адхіленні прэзідэнта з пасады прымае Вярхоўны Савет большасцю не менш як 2/3 ад выбраных дэпутатаў (на сённяшні дзень гэта 134 галасы).



Подпісы збіраюць некалькі чалавек — найбольш аўтарытэтныя прадстаўнікі фракцыяў «Грамадзянскае дзеянне» і камуністаў. Аграры ў прынцыпе падтрымліваюць гэтыя дзеянні, але чакаюць 15 верасня — тэрмін, вызначаны рашэннямі «круглага стала». Паводле ўзаемных дамоўленасцяў дэпутаты не «выдаюць» прэсе прозвішчы «зборшчыкаў», але СВАБОДЗЕ яны вядомыя. Кожны дэпутат ставіць свой аўтограф на спецыяльным «аўтарскім» лісце паперы, прызначаным выключна для аднаго парламентарыя. Генадзь Карпенка лічыць, што неабходныя 70 подпісаў будуць сабраныя без вялікіх праблемаў.

Гэта, аднак, зусім не азначае, што адразу пасля заканчэння «падпісной кампаніі» Вярхоўны Савет пачне разглядаць працэдуру адхілення прэзідэнта ад улады. Напэўна, было б моцнай стратэгічнай памылкай рабіць парожні стрэл — відавочна, ініцыятары імпічмента пакуль не маюць «цвёрдых» 134 дэпутатаў: пэўная частка парламентарыяў яшчэ хістаецца, прыглядаючыся да моцы і рашучасці абодвух бакоў. Зрэшты, і «цвёрдых лукашэнкаўцаў» у парламенце ўсяго 60-70 чалавек, так што вырашыць крытычную сітуацыю можа літаральна кожны голас. Сабраныя ж подпісы павінны стаць своеасаблівым «камянём за пазухай», з дапамогай якога парламент мусіць пачаць размаўляць з прэзідэнтам у іншай інтанацыі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## 8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы

**У Мінскі гарвыканкам была пададзеная заяўка, падпісаная А.Бяляцкім і Ю.Беленькім. Арганізатары заяўлялі шэсце ад помніка Янку Купалу да плошчы Якуба Коласа, а адтуль — да Тэатра оперы і балета, дзе запланаваныя ўрачыстасці.**

**Аднак Мінгарвыканкам дазволіў толькі правядзенне святочнага канцэрта і мітынгу на плошчы Парыжскай Камуны, ля помніка Максіму Багдановічу з 12:00 да 14:00. Між тым ва ўлётках, якія распаўсюджвае БНФ, пазначанае традыцыйнае месца збору ўдзельнікаў — сквер Янкі Купалы, дзе пачыналася свята вайсковай славы ў мінулыя гады, час збору — 11:00. Гарадскія ўлады не прыслухаліся да просьбы заяўцаў, і цяпер трэба шукаць кампраміснае рашэнне. Па словах А.Бяляцкага, арганізатары збіраюцца весці перамовы непасрэдна з міліцыяй, каб ахоўнікі парадку ўсё ж далі магчымасць удзельнікам свята спакойна прайсці па вуліцы Янкі Купалы — ад сквера, у якім будзе збор, да опернага тэатра.**

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Беларускі тыран

*Пад такім загалоўкам апублікавала артыкул уплывовая амерыканская газета The New York Times*

**Гэты артыкул быў змешчаны 31 жніўня на рэдакцыйнай паласе, дзе выказваецца пункт гледжання газеты па самых важных праблемах сучаснасці. *The New York Times пiша*:**

«На працягу многіх стагоддзяў за гэтую зямлю змагаліся Расія, Літва і Польшча, і ўсё ж беларусы збераглі сваю мову і пачуццё нацыянальнай годнасці. Аднак цяпер, праз пяць гадоў пасля здабыцця незалежнасці, пад аўтарытарным кіраўніцтвам прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі Беларусь хутка спаўзае ў балота тыраніі.

Захад рэдка звяртае ўвагу на агонію Беларусі. І гэта глыбокая памылка. Раздзяляючы тэрыторыі Расіі і Польшчы, маючы агульныя межы з Літвой, Латвіяй і Украінай, Беларусь знаходзіцца якраз у тым месцы, дзе можа сканцэнтравацца напружанасць паміж Усходам і Захадам, калі Расія не здолее ажыццявіць пераход да стабільнай дэмакратыі.

Лукашэнка, які ў савецкія часы быў дырэктарам саўгаса, стаў прэзідэнтам Беларусі ў 1994 г. Ён зусім не адзінокі ў сваіх імкненнях аднавіць больш цесныя сувязі з Масквой і ў спадзяваннях уратаваць ад краху беларускую эканоміку за кошт Расіі. У Савецкім Саюзе беларускія прадпрыемствы сапраўды працавалі ў асноўным на таннай расійскай сыравіне. У пачатку гэтага года дзве краіны ў прынцыпе пагадзіліся на больш цеснае супрацоўніцтва.

Аднак метады кіравання, якія прымяняе Лукашэнка, папросту шакіруюць. Летась падраздзяленні міністэрства ўнутраных справаў сілай спынілі галадоўку дэпутатаў, жорстка збіўшы 18 парламентарыяў, якія пратэставалі супраць антыдэмакратычнага рэжыму. Арыштоўвае палітычных апанентаў і трымае іх у турмах, ён зачыняе незалежныя газеты і пагражае ўвесці савецкія абмежаванні на выезд за мяжу.

Баючыся турэмнага зняволення (а то і яшчэ горшых дзеянняў з боку паліцэйскай дзяржавы), двое апазіцыйных палітыкаў нядаўна папрасілі палітычнага прытулку ў ЗША. Вашынгтон у хуткім часе задаволіў іх просьбу, узяўшы Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка пад сваю ахову. Гэтым самым ЗША засведчылі сваё стаўленне да рэжыму Лукашэнкі, які праводзіць палітычныя рэпрэсіі.

Лукашэнка спыніў эканамічныя рэформы, што пачаліся ў самым пачатку беларускай незалежнасці. Ён замарозіў праграму прыватызацыі і ўзяў пад жорсткі кантроль банкі, пагражаючы іх нацыяналізацыяй. Усе гэтыя крокі вядуць да далейшага заняпаду эканомікі і робяць многіх беларусаў жабракамі. Спадзяванні Лукашэнкі, што Расія спіша вялізны доўг Беларусі і падыме беларускую эканоміку, яўна нерэальныя.

Было б вельмі наіўным чакаць, што Ельцын і ягоныя паплечнікі ў Крамлі націснуць на Лукашэнку, каб ён змяніў курс. Аднак Злучаныя Штаты і дэмакратычныя дзяржавы Еўропы абавязкова павінны выпрацаваць свае падыходы і меры ўздзеяння. Развіццё новай дыктатуры ў самым сэрцы Усходняй Еўропы ігнараваць нельга».

*(Друкуецца ў скарачэнні)*

## Шарэцкі папярэджвае, што прэзідэнт можа быць хворы

**Першае паседжанне сесіі Вярхоўнага Савета 2 верасня адкрыў даволі рэзкім і бескампрамісным уступным словам Сямён Шарэцкі.**

Спікер парламента вельмі крытычна ацаніў прэзідэнцкі праект Канстытуцыі, падкрэсліўшы, што размова ідзе менавіта аб новай Канстытуцыі, а не папраўках да існуючай. «І наогул, з гэтай высокай трыбуны я хацеў бы звярнуцца і да дэпутатаў.., і да ўсіх рабочых, сялян, інтэлігенцыі: удумліва прачытайце тэкст Канстытуцыі, прапанаванай прэзідэнтам, і паспрабуйце ўявіць сабе, якое грамадства будзе ў Беларусі, калі гэтая Канстытуцыя будзе прынятая на рэферэндуме і стане ажыццяўляцца; што тады чакае наш народ, з якім так хочуць параіцца...» — заявіў Шарэцкі.

Старшыня Вярхоўнага Савета нагадаў, што ў свеце ўжо былі прыклады, калі ўлада была ў руках адной асобы. «Дарэчы, — падкрэсліў Шарэцкі, — такім чалавекам можа быць і чалавек хворы, псіхічна неўраўнаважаны, тым больш, што ў Законе аб прэзідэнце нічога не гаворыцца аб тым, што кандыдат у прэзідэнты павінен даць даведку аб стане свайго здароўя». Шарэцкі падтрымаў ідэю аб уключэнні ў рэферэндум дадатковых пытанняў ад Вярхоўнага Савета, а таксама заявіў: «Калі прымаецца фактычна новая Канстытуцыя, дык чаму б нанава не выбраць і прэзідэнта, і Вярхоўны Савет? І гэта было б больш правільным...»

Спікер выказаў меркаванне, што асобныя пытанні прэзідэнцкага рэферэндуму Вярхоўны Савет мог бы вырашыць на сесіі, бо некаторыя з іх «ясныя як белы дзень». На заканчэнне Шарэцкі заклікаў сваіх калегаў пасля першага тыдня працы і прызначэння даты рэферэндуму раз'ехацца на два тыдні па сваіх акругах, каб дапамагчы выбаршчыкам разабрацца ў сапраўдных мэтах гэтай акцыі. «Я яшчэ раз паўтару: дапаможам разабрацца з тым, што можа адбыцца з грамадствам, калі на чале яго стане чалавек з неабмежаванай уладай, ды яшчэ такі, не дай Бог, у якога неабмежаваны апетыт да ўлады», — падкрэсліў старшыня Вярхоўнага Савета.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Джэк Мэт'ю кепска вучыў англійскую мову ў савецкай школе

Як вядома, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі запатрабаваў ад праваахоўных органаў Беларусі праверыць паходжанне правакацыйнага ліста, які спікер атрымаў ад нейкага «грамадзяніна ЗША Джэка Мэт'ю». Шчодры «амерыканец» быў гатовы выплаціць 2 млн. долараў Шарэцкаму за «кансалідацыю дэпутатаў» супраць рэферэндуму і столькі ж — ягонаму сыну (напэўна, для правядзення дыверсій у сельскай гаспадарцы).

СВАБОДЗЕ стала вядома, што КДБ Беларусі ўжо правёў праверку скандальнага ліста і даслаў яе вынікі С.Шарэцкаму. Галоўны вынік праверкі заключаецца ў наступнай фразе: «Результаты исследования данного документа доказывают, что текст его был написан на русском языке, а затем переведен на английский неанглоязычным переводчиком». Аб гэтым сведчыць недакладнае ўжыванне назоўнікаў, дзеяслоўных формаў і няправільная структура сказаў. Аўтар ліста нават у імені і прозвішчы беларускага спікера зрабіў памылкі.

Відаць, загадкавы «Джэк» не быў у савецкай школе выдатнікам.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Рэферэндум правядзе Ганчар

*5 верасня 111 дэпутатаў Вярхоўнага Савета прагаласавала за абранне Віктара Ганчара старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі*

В.Ганчар стаў кіраўніком Цэнтрвыбаркаму, нягледзячы на зацятае, адкрытае супраціўленне прадстаўнікоў прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода». Падчас абмеркавання кандыдатуры Ганчара памочнік прэзідэнта дэпутат Уладзімір Канаплёў заявіў адкрытым тэкстам: *«Прэзідэнт сказаў, што калі Ганчар стане старшынёй Цэнтрвыбаркама, ніякага ўзаемадзеяння прэзідэнта з парламентам не будзе»*. Ганчара, аднак, падтрымалі ўсе асноўныя партыйныя фракцыі Вярхоўнага Савета.

Раней, у сераду 4 верасня, Вярхоўны Савет прыняў некалькі прынцыповых паправак у закон аб рэферэндуме. Так, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі «абавязаныя забяспечыць роўныя магчымасці для агітацыі «за» або «супраць» пытання ці рашэння, якое выносіцца на рэферэндум». Парламент таксама кардынальна памяняў палажэнні закона наконт сумнавядомых выязных скрынак для галасавання. Цяпер у выпадку, калі асобныя грамадзяне па стане здароўя не могуць прыбыць у памяшканне для галасавання, участковыя камісіі абавязаныя на падставе іх пісьмовай просьбы арганізаваць дастаўку такіх грамадзян у памяшканне, дзе праводзіцца галасаванне, і назад. «Арганізацыя галасавання па-за межамі памяшкання для галасавання забараняецца», — адназначна гаворыць новая рэдакцыя закона.

Вярхоўны Савет таксама пашырыў правы грамадскіх назіральнікаў. І, нарэшце, дэпутаты ўнеслі ў закон новы артыкул «Прызнанне рэферэндуму несапраўдным». Рашэнне аб прызнанні рэферэндуму несапраўдным можа быць прынятае Вярхоўным судом па заяве любога грамадзяніна, палітычнай партыі, грамадскага аб'яднання або дзяржаўнага органа.


*(Працяг на стар. 2)*

## Рэферэндум правядзе Ганчар

(Пачатак на стар. 1)

Нягледзячы на тое, што галасаванне ў парламенце па гэтым законапраекце праходзіла пасля сустрэчы Лукашэнкі з аддадзенымі яму дэпутатамі, дэпутацкая большасць паводзіла сябе даволі згуртавана — кожная папраўка ўпэўнена набірала 115—120 галасоў.

Відавочна, што Віктар Ганчар, як вопытны і амбітны палітык, невыпадкова даў сваю згоду ўзначаліць Цэнтрвыбаркам. У сённяшняй сітуацыі гэты орган становіцца адным з самых важных і ўплывовых інструментаў палітычнага жыцця Беларусі. Агульны настрой у парламенце і ўнесеныя ў закон аб рэферэндуме змены даюць падставы меркаваць, што дзейнасць Ганчара на новай пасадзе і ягоныя ацэнкі юрыдычнай карэктнасці прэзідэнцкіх пытанняў рэферэндуму знойдуць падтрымку парламенцкай большасці.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**



## Першы мітынг гарачай восені

**Мітынг пад афіцыйнай назвай «сустрэча з дэпутатамі», які прайшоў 2 верасня ўвечары ля мінскага Палаца культуры чыгуначнікаў, стаў своеасаблівым адкрыццём восеньскага перыяду палітычнай барацьбы ў Беларусі.**

Аглядальнікі адзначаюць, што арганізатары мітынгу ўсё ж памыліліся ў сваіх прагнозах наконт колькасці ўдзельнікаў сустрэчы. Замест 20 тысяч, на якія разлічвалі аўтары заяўкі ў гарвыканкам, сабралася не больш за 5 тысяч, а па словах афіцэраў міліцыі, якія сачылі за парадкам, мітынгоўшчыкаў было нават менш — каля 3 тысяч. Між тым нават міліцыянты падкрэсліваюць рашучы настрой і арганізаванасць тых, хто адгукнуўся на заклік дэпутатаў. Калі параўнаць мітынг 2 верасня з мітынгамі, якія распачалі палітычны сезон увесну, можна беспамылкова адзначыць, што колькасць незадаволеных у краіне значна ўзрасла і што гэтыя людзі зусім не збіраюцца заставацца маўклівымі назіральнікамі працэсу, які, на іх думку, прывядзе да ўсталявання дыктатуры і нават новых Курапатаў.

Другая істотная рыса сустрэчы — тое, што ў ёй, нягледзячы на папярэднюю дамову, не ўдзельнічалі ні кіраўнікі камуністычнай і аграрнай партый, ні іх радавыя сябры. Ва ўсякім разе, на прыступках палаца не было не тое што лідэраў, але і так званых каардынатараў, якія апошнім часам актыўна працавалі за «круглым сталом». Гэтаму ёсць, прынамсі, тры тлумачэнні. Альбо аграрыі і камуністы адхіліліся ад удзелу ў сустрэчы літаральна перад пачаткам, спаслаўшыся на тое, што над удзельнікамі мітынгу (нягледзячы на дамоўленасць) усё ж луналі бел-чырвона-белыя сцягі, альбо «чырвона-зялёныя» лідэры далі адбой сваім калонам, баючыся абвінавачванняў у «змове з нацыяналістамі». І трэці варыянт: яны, магчыма, проста не маюць таго ўплыву, аб якім паўсюль заяўляюць.

Сапраўды, адна рэч вывесці некалькі соцень старых партгасактывістаў на плошчу Незалежнасці ў дзень працы 1 Траўня і зусім іншае — забяспечыць яўку на чыста палітычную, ды яшчэ і антыпрэзідэнцкую акцыю. Як паказала 2 верасня, сёння на гэта здольныя толькі БНФ, АГП, у меншай ступені сацыял-дэмакраты, незалежныя прафсаюзы ды жаночая партыя «Надзея», лозунг якой «Падтрымаем мужчынаў сваімі плячыма!» быў вельмі даспадобы мітынгоўшчыкам. Што ж тычыцца аграрыяў і асабліва камуністаў, то першы восеньскі мітынг яўна не засведчыў баявога стану іх шэрагаў. Магчыма, адчуваючы такую «падтрымку» нізоў, не рашыліся на публічную дэманстрацыю і лідэры гэтых арганізацый. А можа, спрацавалі яшчэ іншыя прычыны?

Ва ўсякім разе, зноў пацвердзілася, што на чале калоны, якая не адмаўляецца ад барацьбы за дэмакратыю і Канстытуцыю да канца, стаяць людзі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Ім першым выпадае прыняць і дубінкі міліцыі (чаго, дзякуй Богу, на гэты раз не было), і паклёп афіцыйнай прапаганды, і судовыя пераследы...

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Хлеб 96-га года збіралі метадамі 86-га

*На пытанні СВАБОДЫ адказвае лідэр Сялянскай партыі Яўген Лугін*

**— Калі параўнаць сёлетняе жніво з мінулагоднім, ці ёсць розніца?**

— Гэты год сапраўды адрозніваецца. Па-першае, ураджаем. Ён някепскі, хаця для Беларусі 24-25 цэнтнераў з гектара — гэта ўсё ж няшмат. Мы маглі б стабільна браць па 30-40 цэнтнераў і не лічыць гэта падарункам з нябёсаў.

Але галоўнае адрозненне ў іншым. Атмасфера пераможнай бітвы, якую стварылі афіцыйныя СМІ, зусім не адпавядае рэальным настроям у вёсцы. Сяляне нашыя, як заўсёды, стараліся, нічога не скажаш. Але што за настрой можа быць, калі працуеш на тэхніцы, якой даўно час адпачываць сярод металалому? І вось вынік: каля 100 чалавек загінулі на жніве (згодна з дадзенымі ДАІ, якія было вымушанае абвясціць тэлебачанне) — гэта рэкорд, такога ніколі не было!

**— Сапраўды, вельмі дарагая цана...**

— А ўсё таму, што ўраджай 1996 года вырашылі сабраць метадамі 86-га. Лозунгам жніва зноў стала слова «Даёшь!» Мы вярнуліся да таталітарных метадаў кіравання сялянскімі справамі, хоць менавіта гэтыя метады і не давалі нам працаваць эфектыўна.

**— А вы не перабольшваеце наконт мінулага? Усё ж раней нашыя сяляне дасягалі нібыта неблагіх вынікаў.**

— Давайце паглядзім, вярнемся ў 86-ы год. Параўнаем Беларусь з ФРГ тых часоў. Па плошчы мы не вельмі адрозніваліся: у нас тэрыторыя ў 207 тысяч квадратных кіламетраў, у іх — 248. Але насельніцтва ў нас было менш у пяць разоў, і ворыва на аднаго жыхара прыходзілася 62 соткі, а ў ФРГ — 12 сотак. Дык вось, у 1986 годзе мы сабралі 7 мільёнаў тон збожжа, а немцы — 24 мільёны. Мяса мы вырабілі каля мільёна тон, а ў ФРГ гэты паказчык склаў 4,5 мільёна. Вось вам і эфектыўнасць нашай калектыўнай гаспадаркі. Ніколі яна не была эфектыўнай, нават у тыя часы. А цяпер, калі не хапае тэхнікі, калі сялянам амаль не плоцяць, калі яны вымушаныя красці тое ж зерне, каб мець грошы, — пра эфектыўнасць сельскай гаспадаркі ўвогуле гаварыць не даводзіцца. Вось чаму, як толькі ў краінах Усходняй Еўропы адбыліся палітычныя перамены, там адразу ад калектыўных гаспадарак адмовіліся. А дзе зацягнулі з гэтым працэсам, як у Славакіі, ці ўвогуле за рэформы не ўзяліся, як у Беларусі, там вымушаныя вяртацца да былых метадаў. Толькі я не разумею, чым тут пахваляцца? Гэтакім кіраўнікам трэба прабачэння прасіць у людзей, а яны строяць з сябе герояў ці мудрацоў.

**— Ва ўсходніх раёнах Беларусі шмат выпадкаў, калі гаспадаркі, якія яшчэ не разлічыліся з дзяржавай за крэдыты пад ураджай, прадаюць збожжа «налева», у тым ліку і расійскім перакупшчыкам...**

— Звычайная рэч: калгасам патрэбныя грошы. Але ад гаспадарак патрабуюць на працягу двух тыдняў пасля заканчэння ўборкі разлічыцца зернем за крэдыты з дзяржавай, здаць увесь план, і толькі потым можаш гандляваць. Між тым, грошы патрэбныя сёння — у многіх гаспадарках па некалькі месяцаў не плацілі заробак, нарастае незадаволенасць. Вось і ўзяліся гандляваць. Але хутка гэта скончыцца. Наколькі мне вядома, рыхтуецца ўказ прэзідэнта, якім будзе забаронены продаж ураджаю любым пабочным суб'ектам.

**— Ці зробяць яшчэ горш: можна будзе гандляваць, але толькі з дазволу кіраўніцтва. Гэта ўвогуле шлях да хабарніцтва. Такое магчыма?**

— Па сутнасці, яно так ужо і адбываецца. У раёне ўсім кіруе «вертыкальшчык», які проста павінен ведаць, што адбываецца ў ягонай «вотчыне». Калі ён дазваляе «ўцечку ўраджаю», то з пэўнай мэтай.

Тут трэба адзначыць такое сутыкненне інтарэсаў: з аднаго боку, старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў працуюць у таталітарнай сістэме, іх «душаць», прымушаюць, імі камандуюць і г.д. З іншага боку, усё ж існуе рынак, ад якога і прэзідэнт нібыта не адмаўляецца. Не схітруеш, не будзеш кемлівым і прадбачлівым — не зможаш заплаціць сялянам. Ганаровымі ж граматамі не накорміш. Сёння кіраўніком гаспадаркі быць вельмі цяжка. У лютым 1995 года прэзідэнт падпісаў указ № 51, які застаўся прэсай не заўважаным. Між тым, гэты ўказ канчаткова аднавіў былое камуністычнае прыгоннае права на вёсцы. Згодна з указам, з кіраўніком гаспадаркі заключаецца кантракт, і ўжо не воля калгаснікаў, а адносіны з кіраўніком раённай адміністрацыі для старшыні галоўнае. Як раней райком кіраваў старшынёй, так цяпер — кіраўнік адміністрацыі. Пра рынкавыя адносіны трэба забыцца.

**— Вы намалявалі даволі змрочную карціну. Праз пару гадоў вёска застанецца без тэхнікі, да таго ж аднавілася камандная сістэма, з якой мы не ўпішамся ў рынкавую прастору, нават расійскую. Дык што нас чакае? Голад?**

— Я думаю, што голад нам не пагражае. Таму што, як бы ні хацелі нас вярнуць у мінулае прыхільнікі калгасна-саўгаснай сістэмы, яна здае свае пазіцыі. Вось лічбы: у мінулым годзе ў прыватных гаспадарках знаходзілася 15% усёй зямлі. Гэта прысядзібная зямля, дачы і фермерскія надзелы. І на гэтых 15 працэнтах была выраблена палова ўсёй сельскагаспадарчай прадукцыі, а сёлета будзе выраблена 54-60%. Прыватны сектар перамагае. Калі б яшчэ два гады таму людзям далі права атрымаць зямлю і выйсці з ёй з калгаса, потым закласці гэтую зямлю ў банк, атрымаць крэдыт, набыць неабходную тэхніку і самім займацца ўраджаем, то сёння пра жніво мы б ужо ўвогуле не дыскутавалі б. Якое жніво на пачатку верасня? У добрага гаспадара ўсё даўно было б сабрана, закладзена, а калі трэба, то і прададзена. Вось у вёсцы Слаўкавічы Глускага раёна, адкуль я толькі што вярнуўся, фермеры даўно сабралі і свой хлеб, і хлеб аднавяскоўцаў-калгаснікаў, якім калгас, дарэчы, не даваў камбайн, пакуль не было ўбрана калгаснае поле.

**— Калі падвесці вынік, то што б Вы адзначылі?**

— Вынік быццам бы будзе някепскі. Збяруць прыкладна 6 мільёнаў тон, але што далей? Ледзь хопіць разлічыцца з дзяржавай, адкласці частку ў насенны фонд ды заплаціць сялянам. З вяскоўцамі будуць разлічвацца пераважна натурай — зернем. Калгаснік зможа выкарміць пару парсючкоў, ёсць бульба — вось і дацягне да вясны. Ды яшчэ сваякам з горада дапаможа, якія без працы засталіся.

А ў наступным годзе пачнецца новая бітва, за новы ўраджай. Усё паўторыцца зноў на тым жа ўзроўні, будзем таптацца на месцы. Дзіва!!! Ужо, наколькі я ведаю, і ва ўрадзе большасць зразумела, што без рэформы ў сельскай гаспадарцы (але рэформы з надзяленнем сялян зямлёй) не абысціся. А вынікаў няма. Становішча такое, быццам усе побач крычаць прэзідэнту: «Сашок, паварочвай управа, выязджай на роўны шлях!» А наш Сашок, прабачце, шуруе па калдобінах ды яшчэ заяўляе: «Верной дорогой едзем, таварышы!» Ён спадзяецца, што дзяржаўнымі рычагамі можна навесці парадак, толькі рычагі тыя ўжо не працуюць.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Колькі дадуць за подпіс?

**Адным з самых прыкметных скандалаў першых дзён сесіі Вярхоўнага Савета стала гісторыя з фальсіфікацыяй некалькіх дэпутацкіх подпісаў пад зваротам у «Народнай газеце», дзе 68 парламентарыяў нібыта безагаворачна патрымалі лукашэнкаўскі рэферэндум.**

Пасля таго, як некалькі дэпутатаў заявілі, што не ставілі свой подпіс пад гэтай заявай, парламенцкай камісіі па этыцы было даручана расследваць інцыдэнт. Як паведаміў старшыня гэтай камісіі Анатоль Красуцкі, было ўстаноўлена, што сярод 68 дэпутатаў, якія нібыта падпісалі заяву, асабісты подпіс паставілі толькі 52 чалавекі. 6 подпісаў былі атрыманыя, як заявіў Красуцкі, «у выніку вуснай згоды». Прозвішчы 10 падпісантаў былі «здабытыя» яшчэ больш арыгінальным чынам — высланыя ў рэдакцыю «Народнай газеты» з Брэсцкага і Віцебскага аблвыканкамаў. Менавіта кіраўніцтва справамі гэтых структур выканаўчай улады чамусьці ўзяло на сябе адказнасць падпісацца за тых дэпутатаў, якія зусім і не збіраліся падтрымліваць сумнавядомы зварот.

Такім чынам, было пацверджана, што 3 дэпутаты (члены аграрнай фракцыі Валерый Мініч, Алег Ляшчынскі і Віталь Бусько) не падпісвалі вернападданніцкую заяву. Вячаслаў Кебіч таксама не падпісаў, а толькі пакінуў двухсэнсоўную прыпіску аб тым, што ён падтрымлівае ідэю рэферэндуму, але з пэўнымі агаворкамі.

Абмеркаванне гэтай скандальнай сітуацыі праходзіла на сесіі даволі рэзка. Дэпутат Уладзімір Нісцюк заявіў, што звяртаецца да Генеральнага пракурора з просьбай расследаваць службовыя парушэнні, якія прывялі да фальсіфікацыі. А Павел Знавец сцвярджаў, што пасля падзення рэжыму Лукашэнкі дзеянні «падпісантаў» падпадуць пад паняцце «дзяржаўнае злачынства». У адказ з істэрычнай прамовай выступіў Віктар Кучынскі, які, нягледзячы на прысутнасць у авальнай зале дэлегацыі з брытанскага парламента, павярнуўся да Знаўца і закрычаў: «Хто мяне будзе судзіць? Ты?..»

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Рэферэндум становіцца тэмай насценнага фальклору

**Магілёўская «вертыкаль» шпарка ўзялася за апрацоўку насельніцтва перад рэферэндумам.**

Абласны штаб пры аблвыканкаме разаслаў распараджэнні ва ўсе мясцовыя дзяржаўныя газеты, каб тыя перадрукоўвалі матэрыялы з «Советской Белоруссии» і не шкадавалі на іх 10% газетнай плошчы ў кожным нумары. Акрамя таго, на ўсіх кіёсках «Белсаюздруку» з'явіліся дошкі, на якіх штодня прымацоўваюць свежы нумар прэзідэнцкай газеты. Праўда, каля гэтых дошак чытачы практычна не затрымліваюцца.

У той жа час невядомыя па ўсім горадзе чорнай незмывальнай фарбай нарабілі шмат надпісаў накшталт *«Луку на муку»*, *«Беларусь у Еўропу, а Лукашэнку ў ...»*, *«У Чон Ду Хвана і Лукашэнкі шмат агульнага»*, *«Рэферэндум будзе апошнім злачынствам БАЦЬКІ»*. У машынабудаўнічым інстытуце цяперашні чырвона-зялёны сцяг нехта парэзаў на кавалкі, на якіх было напісана: *«Туалетная бумага»*.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Польская школа не гатовая

**Урачыстае адкрыццё першай у Беларусі польскай школы ў Гродне не адбылося.**

З прычыны шматлікіх недаробак адкрыццё перанесенае на канец верасня. Аднак вучні ўжо прыступілі да заняткаў — пакуль у іншым будынку. У новай школе ўсе прадметы будуць выкладацца па-польску, а другой мовай будзе беларуская.

**С.М.**

# Канстытуцыя для Аляксандра Першага

## *Ацэнкі дэпутатаў ВС*

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне»:**

«На мой погляд, прапанаваны праект Канстытуцыі не прадугледжвае для прэзідэнта толькі аднаго — механізму перадачы ўлады ў спадчыну для старэйшага сына. Да цяперашніх паўнамоцтваў прэзідэнта, якія і так не маюць прэцэдэнтаў у свеце, дадаецца яшчэ столькі, што мы можам упэўнена сказаць: Беларусь і яе народ вярнуліся на тры стагоддзі назад у еўрапейскай гісторыі. Памятаеце — быў такі палітычны дзеяч у Францыі, на якога любіць спасылацца Лукашэнка, — Людовік XIV, які сказаў: «Дзяржава — гэта я». У выпадку прыняцця прапанаванага выканаўчай уладай тэксту Канстытуцыі Аляксандр Рыгоравіч будзе мець усе юрыдычныя правы заявіць: «Рэспубліка Беларусь — гэта я».

Трэба адзначыць, што праект новай Канстытуцыі адбірае ў людзей шмат сацыяльных заваёваў. Ніводзін законапраект, што датычыць дзяржаўных фінансавых выдаткаў, не можа разглядацца ў парламенце без згоды прэзідэнта. Таму пенсіянеры і інваліды, якія будуць ставіць перад заканадаўчай уладай свае матэрыяльныя пытанні, пазбаўленыя магчымасці іх вырашыць без ласкі прэзідэнта».

**Василий НОВИКОВ, первый заместитель председателя Верховного Совета Республики Беларусь:**

«На первый же взгляд совершенно очевидно, что президент путем плебисцита намеревается получить из рук народа неограниченные диктаторские полномочия. Александр Григорьевич хочет быть главой государства, определяющим судьбы, как он обычно выражается, «моего народа» по личному усмотрению. В этом порождении угоднической юридической мысли сосредоточены практически все признаки единоличного правления: «карманные» сенаторы Национального собрания, бесправные депутаты Палаты представителей, назначаемые конституционные судьи, подневольные сотрудники Центризбиркома, безупречно послушные «вертикальщики», зависимые прокуроры и судьи и т.д.

А.Лукашенко продлевает свое время пребывания у руля державы очень простым приемом. Пятилетний срок полномочий первого президента он хочет отсчитывать со дня принятия на референдуме его собственной Конституции, то есть до 2001 года. Против вероятных возмущений жителей республики, недовольных устанавливающимся режимом, в проекте Конституции предусмотрено право президента запрещать забастовки и митинги».

*ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ*

# Всем хорош зять, но...

Уважаемая редакция!

Хочу поделиться проблемой, которая у меня возникла. Может, и еще у кого-нибудь такое есть.

Я пенсионерка, живу вместе с дочкой и зятем. Пенсия очень маленькая, только на хлеб и молоко хватает. Вся семья держится на заработках зятя. Работает он много, почти без выходных, ну и зарабатывает — на все необходимое хватает. Все бы хорошо, но вот не сошлись мы с зятем во взглядах на нашу жизнь.

Я очень надеюсь на нашего президента, хочу, чтобы он наладил нашу жизнь. А что пока жить стало похуже, — так это временно, надо просто потерпеть.

Зять же и слышать ничего не хочет: хватит, говорит, уже за два года натерпелись. А в том, что стало хуже жить, виноват президент. Просто он вам, старикам, голову дурит, а вы и рады.

Я хотела поддержать президента на референдуме, помочь, раз ему это надо. Но зять сказал, что для его работы от президента только вред и что я хочу помочь Александру Григорьевичу угробить его бизнес. И если я пойду на референдум поддерживать президента, то денег в семью от зятя больше не будет.

«Ты ничего не понимаешь в теперешних условиях, по своей глупой старости хочешь вреда для меня. А тогда чего ради я должен упираться для тебя, — заявил зять. — Пойдешь за Лукашенко — сиди на своей пенсии. Пусть тебе президент помогает».

Вот такие дела. Конечно, зять лучше понимает, что к чему. Может, он в самом деле прав, и нам, старикам, лучше не лезть туда, где мы плохо разбираемся?

Посылаю письмо в вашу газету, потому что зять ее хвалит.

**Татьяна Алексеевна КРИВИЦКАЯ,**
*пенсионерка, г.Минск*

# Будем думать, тов.Шкляревский

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты СВАБОДА!

Хочу через вашу газету поблагодарить некоего товарища Шкляревского из газеты «7 дней» за хороший совет. Наткнулся я на его статью случайно, поскольку официальные газеты уже давно не читаю, разве что иногда, ради смеха (потому что при чтении их такое ощущение, будто вернулись брежневские времена). Товарищи корреспонденты с пеной у рта прославляют «подвиги» одного известного героя, пытаясь убедить, что осталось потерпеть еще пару дней — и мы будем жить при коммунизме. Оказывается, «всенародноизбранный» руководит мудро, только вот разные пазьняки да какие-то «круглые столы» мешают работать...

Так вот о главном: в «Народной газете» от 21.08.96 г. была перепечатана статья выше упомянутого Шкляревского из «7 дней» *«О странной любви газеты «Известия»*, которая, по его мнению, позорит белорусского президента. Автор даже указал даты публикаций, за что я ему очень благодарен. Спасибо, тов.Шкляревский, обязательно зайду в библиотеку и почитаю все, так как до этого я «Известий» не покупал. Заканчивая свою статью, тов.Шкляревский написал: «Так что, действительно, думайте, граждане! Думайте, когда читаете газету «Известия»!» Будем думать, тов. Шкляревский, обязательно будем.

**Андрей ПАСКЕВИЧ,**
*г.Минск*

# Делегатов уже подбирают

Уважаемая редакция!

Наверное, вам будет интересно узнать о том, как у нас — на Минском электромеханическом заводе — было организовано «единодушное одобрение» инициативы президента о проведении так называемого национального конгресса.

Все прошло по годами отработанной схеме. В пятницу, 23 августа, было объявлено о заседании совета предлприятия с повесткой дня «О ходе выполнения коллективного договора 1996 г.» На заседание пригласили начальников цехов, председателей цехкомов. И только в понедельник, 26 августа, на заводе узнали, что на этом заседании совета от имени коллектива была одобрена идея созыва конгресса, а также выбраны (якобы всем коллективом) делегаты на это политическое шоу. Люди в делегаты были подобраны надежные: директор завода Н.Пантелей, председатель «карманного» профсоюза В.Лобатый, начальник цеха В.Бурдас и два человека из рабочей аристократии.

В цехах никто не возмутился, все привыкли, что мнением коллектива управляют начальники. Кроме того, все понимают, что любому правдоискателю могут указать на дверь. В обстановке полного равнодушия и страха потерять работу администрация способна организовать одобрение коллективом завода любого решения властей.

Я тоже опасаюсь гонений со стороны администрации завода, поэтому прошу заметку подписать псевдонимом.

**Г.АНГАРСКИЙ**

# Надо «идти в народ»

В опубликованном вами письме Ю.Чистова «Где же ваши партии?» (СВАБОДА, 23 августа) высказаны соображения, которые очень волнуют и меня.

Действительно, странно, что демократические партии не проводят с населением практически никакой разъяснительной работы. Да, все государственные СМИ сосредоточены в руках г-на Лукашенко, но есть же и другие способы для объяснения своих взглядов. Необходимо «идти в народ»: на заводы, предприятия, в деревню, создавать свои первичные структуры, пропагандировать свои убеждения. Следует также выпускать информационные листки, в которых бы доходчиво объяснялись взгляды на все насущные проблемы. Хочет разогнать г-н Лукашенко Верховный Совет — так давайте объясним народу, почему этого нельзя допустить. Так же надо поступать и по другим вопросам.

Народ, простите, надо воспитывать. Лукашенко его по БТ воспитывает день и ночь и, как видите, добивается определенных успехов. Поэтому первоочередной задачей является прорыв кольца лжи, которое создает президент. Без этого рейтинг г-на Лукашенко (46%, согласно А.Вардомацкому), несмотря на все его издевательства над Республикой Беларусь, останется прежним.

С уважением

**К.НОВЫШНЫЙ,** *минчанин, 23 года, инженер-программист*

***АД РЭДАКЦЫІ: паведамляем аўтару гэтага ліста (а таксама іншым зацікаўленым грамадзянам), што можна без праблем далучыцца да любой з партыяў і разам з іншымі актывістамі заняцца інфармаваннем насельніцтва.***

# Наіўная прастата

Да 14 траўня 1995 года я, беларус і патрыёт Беларусі, бачыў у беларусаў толькі станоўчыя рысы: добразычлівасць, працавітасць, памяркоўнасць... Цяпер жа бачу, што гэтая памяркоўнасць мяжуе з прымітыўнасцю і недалёкасцю.

Пытаюся ў адной пенсіянеркі, чаму яна прагаласавала за былыя бээсэсэраўскія герб і сцяг. Жанчына кажа, што прывыкла да іх. Вось так! Яна не ведае ні іх сутнасці, ні іх прызначэння, проста прывыкла, як прывыкла да цяжкой працы ад цямна да цямна, прывыкла, што пенсіі і зарплаты (яна яшчэ працуе) не хапае, каб звесці канцы з канцамі, а таму трэба яшчэ гнуць спіну на гародзе.

А калі я запытаўся, як яна ўяўляе сабе нармальнае чалавечае жыццё, яна не зразумела пытання. Якое яшчэ там нармальнае жыццё? Для яе гэтае пазбаўленае чалавечай годнасці жыццё — і ёсць нармальнае! І прэзідэнт нармальны. Ён, бач ты, бядак, адзін стараецца, а вакол адны нячэсныя, адныя мафіёзі. «Лукашэнка хоць што-та дзелае», — звычайны аргумент «нармальнага» беларуса.

Наіўная прастата! Ды лепш бы ўжо Лукашэнка ўвогуле нічога не «дзелаў»!

Прыбліжаецца «день седьмого ноября — красный день календаря». Цяпер, падобна, Лукашэнка ўявіў сябе «владычицей морскою» і хоча, каб залатая рыбка была ў яго «на пасылках»... Чым скончылася казка, усе памятаюць.

**Яўген ЛІТВІН,**
*Мінскі раён*

# Заклік з эміграцыі

**Удзельнікі З'езду беларусаў ЗША і Канады, якія гэтымі днямі прайшоў у Амерыцы, прынялі Зварот да народа Рэспублікі Беларусь.**

У гэтым дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца:

*«Для нас, беларусаў, якія ў розныя гады змушаны былі пакінуць Бацькаўшчыну, зусім не абыякавы ваш, дарагія суродзічы, будучы лёс, лёс нашай роднай шматпакутнай Беларусі.*

*Мы заклікаем вас падумаць і паставіцца апазіцыйна да антынародных захадаў прэзідэнта Лукашэнкі і ягонай каманды, не падтрымліваць яго, не згаджацца з антыдэмакратычнымі зменамі ў Канстытуцыі, пра якія ён мае намер запытацца ў вас на чарговым рэферэндуме.*

*Мы заклікаем вас падтрымаць магчымае аб'яднанне і згоду ўсіх партый і палітычных рухаў, якія збіраюцца паставіць заслону дыктатарскім схільнасцям Лукашэнкі і ўзняць пытанне аб яго імпічменце. Не дайце зноў гэтай восенню ашукаць сябе, бо ўмовы вашага жыцця могуць стаць яшчэ горшымі і зусім невыноснымі.*

*Трымайцеся, людзі добрыя. Ад вас залежыць, хто будзе вамі кіраваць і па якім шляху пойдзе наша Бацькаўшчына».*

## Субота 14 верасня

**Белорусское телевидение**
8.00 Новости.
8.15 «Созвучие».
8.45 «Судьба моя и надежда».
9.15 Здоровье.
9.45 Уроки Н.Новожиловой.
10.15 Все про все.
10.40 «Ералаш».
11.00 Многоголосие.
11.35 Мир природы и увлечений.
12.25 Творцы.
13.00 «Европейская двадцатка MTV».
13.45 Телевизионный Дом кино.
14.40 Коллаж.
15.10 Четвертое измерение.
15.45 «Триумф человеческого духа».
16.15 «Золотая лира».
17.00 Галерея.
17.30 Х/ф «Избранные».
19.45 Международный поэтический вечер в Доме литератора.
20.45 Колыбельная.
21.00 Новости.
21.45 «В руках правосудия». С. 4.
22.40 «Шклов-96».
23.45 Видимо-невидимо.
0.45 Темная комната.

**ОРТ**
7.00 «Ералаш».
7.10 Фильм «Роман и Франческа».
8.45 Домашняя библиотека.
9.00 Новости.
9.10 Слово пастыря.
9.30 Не зевай.
10.00 Утренняя почта.
10.35 Смак.
10.55 Премьера. «Возвращение Третьяковки».
11.30 «Далеко, далеко на юге». М/ф.
11.40 Под знаком «Пи».
12.10 Фильм «Три товарища».
13.30 Америка с М.Таратутой.
14.00 Новости.
14.20 Сериал «Возвращение на остров сокровищ».
15.15 Мультфильмы нашего детства. «Поди туда — не знаю куда».
16.10 «Колесо истории».
17.00 Новости.
17.20 В мире животных.
17.55 «Ералаш».
18.10 «Золотая серия». «Белое солнце пустыни».
19.45 Спокойной ночи, малыши.
20.00 Время.
20.40 «Вьетнам. До востребования».
21.40 Брэйн ринг.
22.25 Кубок мира «Мастер-ралли-96».
22.40 Коллекция Первого канала. «Неприятности с Гарри».

**Канал «Россия»**
7.00 «Искра божия». Д/ф.
7.40 «Маугли».
8.00 «Мак и Матли».
8.20 По вашим письмам.
8.50 Товары — почтой .
9.05 На V Международном фестивале искусств «Славянский базар».
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Ваш партнер.
10.30 Доброе утро.
10.55 21-й кабинет.
11.20 Мультфильм.
11.30 Анонимные собеседники.
12.00 «Поэт в России — больше, чем поэт».
12.25 Проще простого.
13.00, 19.00, 23.40 Вести.
13.20 «Грехи».
14.10 Ничего, кроме...
14.25 Де факто.
14.50 Мультфильм.
15.00 Разговор с фотографиями.
15.30 Своя игра.
16.00 Диалоги о животных.
16.30 Эх, дороги!
17.00 Репортер.
17.15 Футбол без границ.
17.45 «У всех на устах».
18.00 «Королева Марго». С. 3.
19.30 Субботний вечер с Татьяной Шмыгой.
21.00 Погода на завтра.
21.05 Совершенно секретно.
22.00 «Ред рок вест». Х/ф.
23.50 Программа «А».

**Санкт-Петербург**
9.10 Стиль жизни.
9.25 По реке плывет топор.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Информ ТВ.
10.10 «Честь имею».
10.40 Непознанное.
11.10 Ток-шоу «Наобум».
11.40 Страсти-мордасти.
12.10 «Не ходите, девки, замуж». Х/ф.
13.15 «Старинные русские романсы в исполнении Нани Брегвадзе».Ф/к.
13.30 Мультфильм.
14.10 По всей России.
14.25 Мы и банк.
14.45 Усадьбы.
15.10 Спортивное обозрение.
15.25 Парадоксы истории.
16.10 Мультфильм.
16.20 «Моцарт. Достоверная хроника последнего часа».
17.05 ...Равняется любовь.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Большой фестиваль.
19.20 «Сама невинность». Х/ф.
20.55 Светская хроника.
21.10 Блеф-клуб.
21.45 Круговорот.
22.05 «Гаспары, или Крысы Парижа». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
6.00 Сегодня.
6.20 Х/ф «Чудесные годы».
6.45 «Мафия-1».
7.30 Х/ф «Петля затягивается в Сингапуре».
9.00 Д/ф «Вспомним те годы. 1969».
9.45 Х/ф «Бриллиантовая рука».
11.20 «Онассис».
12.10 Х/ф «Безмолвный крик».
14.00 Искренне Ваш.
14.30 «Конек-Горбунок». М-фильм.
15.40 Шаг из круга.
16.00 Новости кино.
16.20 Ток-шоу «Карьера».
17.00 «Горец».
17.30 Дог-шоу «Я и моя собака».
18.00, 21.00 Сегодня.
18.30 «Цель: Куба». Д/ф.
19.00 «Онассис».
20.00 Намедни.
20.45 Куклы.
21.35 Х/ф «Люди-кошки» .
23.40 Третий глаз.
0.25 Ночной канал.»Плейбой».

## Нядзеля 15 верасня

**Белорусское телевидение**
8.00 «Садко». Х/ф.
9.25 «Конон».
9.50 Лучшие хиты MTV.
10.20 Вершина мира.
10.40 «Все нормально, мама!»
11.10 Туробъектив.
11.30 «Цирки мира».
12.45 Студия «Окно».
13.00 «Все мы родом из детства».
13.50 Сельчане.
14.20 Вершина мира.
14.45 «Война в воздухе». С. 4.
15.15 «Поздравляем Вас!».
16.10 «Триумф человеческого духа».
16.40 Пресс-импреза.
17.20 Бездельник.
17.50 Компьютерный полигон.
18.20 Х/ф «В небе «ночные ведьмы».
19.40 Колыбельная.
20.00 Резонанс.
20.50 Спортивный телекурьер.
20.55 Новости-ТВ.
21.10 Ток-шоу «Карамболь».
21.45 Фильм «Апокалипсис сегодня».
0.20 Футбол. Чемпионат Беларуси. «Неман» (Гродно) — «Динамо» (Минск). Т. 2.

**ОРТ**
7.00 «Тихая поляна», «Танюшка, Тявка, Топ и Нюша». Мультфильмы.
7.25 Фильм-сказка «Мио, мой Мио».
9.00 Новости.
9.15 «Непутевые заметки» Дм.Крылова.
9.30 Пока все дома.
10.10 Утренняя звезда.
11.00 «Служу России!»
11.30 Играй, гармонь любимая.
12.00 «Там, за синими горами...».
12.30 «Подводная одиссея команды Кусто».
13.25 Смехопанорама.
14.00 Новости.
14.20 «Музыка в музеях мира».
15.00 «Это было, было...».
15.20 Клуб путешественников.
16.05 Как-то раз.
16.20 Мультфейерверк.
17.05 «Ералаш».
17.25 Счастливый случай.
18.10 Клуб «Белый попугай».
19.00 Время.
19.40 Х/ф «Стрелок».
21.30 Футбольное обозрение.
22.00 Кубок мира «Мастер-ралли-96».
22.15 Новости.
22.25 Фильм «Всадник без головы».

**Канал «Россия»**
6.00 Хоккей. Кубок мира. Финал.
8.05 «Мак и Матли».
8.30 Пилигрим.
9.00 Устами младенца.
9.30 Присяга.
10.00 Вести в одиннадцать.
10.15 Русское лото.
10.55 Вас приглашает фирма «Савва».
11.00 Человек на Земле.
11.30 Книжная лавка.
12.00 «Театр моей памяти».
12.25 Проще простого.
13.00, 23.45 Вести.
13.20 «Грехи».
14.10 Ничего, кроме...
14.25 Караоке по-русски.
14.55 Футбол. Чемпионат России.
17.00 Волшебный мир Диснея.
18.00 «Королева Марго». С. 4.
19.00 Зеркало.
19.55 Погода на завтра.
20.00 «Человек ниоткуда». Х/ф.
21.25 «Фрак народа».
22.20 У Ксюши.
22.50 Церемония закрытия фестиваля «Киношок-96».

**Санкт-Петербург**
9.10 Папа, мама и я — спортивная семья.
9.40 Стиль жизни.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ.
10.10 Роман с героем.
10.40 «Прощай, лето в Лиде». Д/ф.
11.10 Храм.
11.40 Весь этот цирк.
12.10 «Почему бы не верить в чудеса?». Х/ф.
13.40 «Отражение». Т/ф.
14.10 Еще одна Россия.
15.10 Музыкальный фестиваль «Костомукша -96».
16.10 Спортивная программа.
16.35 Детское ТВ.
17.35 Показывает ЛОТ.
18.40 Сокровища Петербурга.
19.20 «Дожди в океане». Х/ф.
20.35 Мультфильм для взрослых.
21.10 Ноу смокинг.
21.55 Международное обозрение.
22.25 «Карьера Димы Горина». Х/ф.

**IV канал, НТВ**
6.00 Х/ф «Чудесные годы».
6.25 «Мафия-1».
7.10 Х/ф «Высшие духи».
8.45 Д/ф «Вспомним те годы. 1970».
9.40 «Онассис».
10.25 Д/ф «Цель: Куба».
10.50 Х/ф «Люди-кошки».
12.45 Намедни.
13.25 Куклы.
14.25 «Пастер вчера и сегодня». Д/ф.
15.00 Подъем переворотом.
15.30 Мультфильм.
15.40 Кумиры.
16.25 Музыкальная кунсткамера.
17.00 «Горец».
17.30 «Сто к одному».
18.00 Сегодня.
18.30 «Человек в маске».
19.10 «Исчезнувшие цивилизации».
20.00 Итоги.
21.10 «Логово белого червя». Х/ф.
22.55 Звезды американского кино в Москве.
23.30 Баскетбол. Чемпионат России.






*Конкурс*

# Пра ўсё на свеце

Дарагія чытачы!

На другі тур нашай віктарыны адказала 123 удзельнікі конкурсу. Гэта крыху менш, чым на першы. Калі некаторыя не даслалі сваіх адказаў з прычыны сваёй няўпэўненасці — дык дарэмна, паспрабаваць ніколі не шкодзіць. А калі нехта вырашыў назапасіць сілы перад апошнім, самым «высокабальным» турам, то, магчыма, такая тактыка і правільная.

Пераможцаў другога тура пяць, прычым геаграфія эрудытаў пашыраецца. Максімум — 15 балаў — атрымалі **Наталля Маркевіч** з *Гомеля*, **Віктар Анішчык** з *Гродна*, **Юрась Голубеў** з *Наваполацка*, а таксама *мінчане* **Ганна Навумовіч** і **Георгій Чахоўскі**.

На чатыры пытанні віктарыны правільна адказалі 23 чытачы — яны ў гэтым туры набралі па 12 балаў. Першымі правільныя адказы даслалі **Вольга Долгіна** *(Магілёў)*, **Уладзімір Рубанаў** *(Брэст)*, **Вольга Кірыленка** *(Мінск)*, **Анатоль Навумчык** *(Бяроза)*, **Сяргей Бычкоў** *(Мінск)*, **Мікола Папека** *(в.Лінава, Пружанскі раён)*.

Як і ў першым туры, самым складаным пытаннем аказалася трэцяе: шмат хто называў смерць манархаў, рэвалюцыйныя пераўтварэнні, прыродныя катаклізмы. Аднак 26 чалавек усё ж пазначыла, што ў названыя гады ў пералічаных краінах была ўведзеная новая сістэма адліку датаў — грыгарыянскі каляндар. Найбольш лёгкім зноў было апошняе пытанне: 68 удзельнікаў правільна назвалі фірму, заснаваную Адзі Даслерам.

Такім чынам, па выніках двух тураў адзінаасобнае лідэрства належыць *мінчаніну* **Георгію Чахоўскаму** — у яго **20 балаў**. Па **19 ачкоў** на рахунку **Ганны Навумовіч** *(Мінск)*, **Віктара Анішчыка** *(Гродна)*, **Наталлі Маркевіч** *(Гомель)*. Трэцяе месца —**18 балаў** — займае **Юрась Голубеў** *(Наваполацк)*, а чацвёртае дзеляць **Іна Гардзіевіч, Інэса Шатэрнік** і **Уладзімір Булаўка** *(усе — Мінск)*.

Пытанні трэцяга тура — у наступную пятніцу. За кожны правільны адказ будзе налічвацца па 4 балы. Невялікая падказка: заданні будуць тычыцца геаграфіі, гісторыі філасофіі і спартовых рухаў, еўрапейскага вайсковага права і інжынерных вынаходніцтваў, якія зрабілі жыццё гараджан значна лягчэйшым.

Зычым удачы!

**Мікола ЛІПСКІ**

## Другі тур

**За кожны правільны адказ налічваецца па 3 балы. Чакаем вашых адказаў 10 дзён — да панядзелка 2 верасня.**

1. «Дзівацтвам Бэбіджа» называлі вучоныя ў мінулым стагоддзі вынаходніцтва англійскага прафесара, бо яно было вельмі грувасткім і складалася з мноства шасцяронак і рычагоў. Дэталяў была такая колькасць, што вынаходніку так і не ўдалося да канца сабраць сваю канструкцыю. Што вынайшаў Чарлз Бэбідж?

**Механічную вылічальную машыну — праобраз ЭВМ.**

2. Па-японску «ван-ван», па-чэшску «хаф», па-румынску «хам-хам», па-эстонску «уах». А як па-беларуску?

**Гаў-гаў — імітацыя брэху сабакі.**

3. Якая падзея адбылася ў Партугаліі ў 1582 годзе, у Нарвегіі ў 1700 годзе, у Кітаі ў 1911 годзе, у Расіі ў 1918 годзе, у Егіпце ў 1928 годзе?

**Быў уведзены грыгарыянскі каляндар.**

4. У пачатку XVIII стагоддзя з вострава Ява на батанічную выставу ў Галандыі было прывезенае дрэва. Праз некалькі год галандцы падаравалі яго парасткі французскаму каралю Людовіку XIV. З Францыі яно трапіла ў Лацінскую Амерыку, дзе знайшло сваю другую радзіму. Што гэта за дрэва?

**Кававае дрэва.**

5. Як называецца фірма, якую заснаваў нямецкі інжынер А.Даслер у 1948 годзе і якая сёння — адзін з сусветных лідэраў у вытворчасці пэўных відаў спецыяльнага адзення і абутку?

**ADIDAS**

*АФІША*

# Выставы: жывапіс, габелен, фларыстыка

Пачатак верасня ў Мінску аказаўся багатым на цікавыя і разнастайныя выставы. У **Палацы мастацтва** экспануюцца творы вядомага брэсцкага жывапісца **Эдуарда Куфко**. У розных жанрах гэты мастак паказвае адметныя асаблівасці свайго таленту: у партрэтах дае дасціпную псіхалагічную характарыстыку персанажаў, у карцінах на сюжэты з нядаўняй трагічнай гісторыі праяўляе сваю прынцыповую чалавечую пазіцыю, а нацюрморты з кветкамі сведчаць пра яго ўменне заўважаць сапраўднае хараство. Варта завітаць на выставу, тым больш, што гэтымі днямі ў Палацы мастацтва не трэба плаціць за ўваход: большасць выставачных плошчаў пустуе і адміністрацыя грошай з наведвальнікаў не бярэ.

У **Нацыянальным мастацкім музеі РБ** 5 верасня адкрылася выстава пецярбуржца **Сяргея Ткачэнкі**. Гэты мастак — ганаровы член творчай суполкі «Пагоня». Гледачоў зацікавяць партрэты Стэфаніі Станюты, Алеся Марачкіна ды іншыя творы С.Ткачэнкі розных жанраў. У гэтым жа музеі таксама працуе выстава «Габелен і мастацкія тканіны», дзе вы ўбачыце ўсю разнастайнасць дэкаратыўных уласцівасцей тэкстыльных матэрыялаў. Традыцыйныя для беларускага ткацтва геаметрычныя арнаменты мастацкіх тканін, плоскія, рэльефныя і нават аб'ёмныя габелены ўпершыню на Беларусі экспануюцца на такой прадстаўнічай выставе.

У **Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі** з 5 верасня працуе выстава «Чароўны свет». Аўтарка экспанатаў — **Дзіна Шымук**, адна з выдатных беларускіх майстроў фларыстыкі, творчасць якой ведаюць у многіх замежных краінах. Выкарыстоўваючы традыцыйны для фларыстыкі раслінны матэрыял, Дзіна Шымук стварае не традыцыйныя букетныя кампазіцыі, а відарысы людзей і птушак, горныя і марскія пейзажы. З вялікім густам і тонкім адчуваннем матэрыялу гэты майстар пераўтварае пялёсткі кветак у раскошныя кімано японскіх танцоўшчыц, пярэстае апярэнне экзатычных птушак і шмат што іншае.

### БАЛЕТ

6 верасня балетам А.Мдзівані **«Жарсці»** («Рагнеда») адкрываецца 64-ты тэатральны сезон у **Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі**. 8 верасня даюць **«Спячую прыгажуню»** П.Чайкоўскага, 11 верасня — **«Карміна Бурана»** К.Орфа і **«Кармэн-сюіту»** Ж.Бізэ і Р.Шчадрына. Пачатак, як заўсёды, — а 19-й гадзіне, кошт квіткоў на балет у новым сезоне такі ж, як і раней — ад 10 да 30 тысяч рублёў.

### КЛАСІЧНАЯ МУЗЫКА

6 верасня ў канцэрце **Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра РБ у Канцэртнай зале філармоніі** прагучаць творы Вэбера (уверцюра да оперы «Вольны стралок»), Шастаковіча (канцэрт № 1 для віяланчэлі з аркестрам) і Пятая сімфонія Бетховена. Саліст **Яўген Фешчанка** (віяланчэль), дырыжор **Віктар Собалеў**, пачатак у 19 гадзін.

### У МАГІЛЁВЕ

Карціны тайваньскага мастака **Лі Шы-Мао** пераехалі з Мінска ў Магілёў і экспануюцца ў **музеі імя Бялыніцкага-Бірулі**. Ягоную мінскую выставу СВАБОДА ў свой час анансавала. Цяпер творы гэтага майстра, які працуе ў традыцыйным стылі *гохуа* (гэта роспіс тушшу або фарбамі па шоўку і паперы), могуць убачыць і жыхары горада на Дняпры. Лі Шы-Мао выстаўляў свае творы ў Нью-Йорку, Сінгапуры, гарадах Францыі, Нямеччыны, Аўстрыі.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

СПОРТ

# Мігель Індурайн прытаміўся

### ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ

Мы ўжо паведамлялі пра перамогу беларускай зборнай над камандай Эстоніі ў адборачным матчы чэмпіяната свету'98 з лікам 1:0. Нашыя сапернікі па IV еўрапейскай групе згулялі так: Аўстрыя — Шатландыя — 0:0, Латвія — Швецыя — 1:2. Цяпер турнірная сітуацыя такая:

| | | Гульні | Ачкі |
|---|---|---|---|
| 1. | Швецыя | 2 | 6 |
| 2. | Беларусь | 2 | 3 |
| 3-4. | Аўстрыя | 1 | 1 |
| 3-4. | Шатландыя | 1 | 1 |
| 5. | Латвія | 1 | 0 |
| 6. | Эстонія | 1 | 0 |

У іншых групах зафіксаваныя два нечаканыя вынікі: ізраільцяне на сваім полі абыгралі балгараў — 2:1, а пра перамогу азербайджанцаў над швейцарцамі вы ўжо ведаеце. Найбольш буйны лік зафіксаваны ў Кардыфе, дзе зборная Уэльса выйграла ў каманды Сан-Марына — 6:0, а прадстаўнікі іншай мікрадзяржавы — княства Ліхтэнштэйн — на сваім полі былі разгромленыя Ірландыяй — 0:5. Дарэчы, судзіла гэты матч беларуская брыгада арбітраў — Сяргей Шмолік, Мікалай Мяцельскі, Аляксандр Чабыкін.

У Паўднёвай Амерыцы таксама праходзяць адборачныя гульні. У чарговым туры калумбійцы выйгралі ў чылійцаў — 4:1 (хет-трык на рахунку Фаўстына Аспрылы), эквадорцы ў венесуэльцаў — 1:0. Мірна скончыліся матчы Балівія — Перу — 0:0, Аргентына — Парагвай — 1:1. Гульня аргентынцаў, якія яшчэ нядаўна ўваходзілі ў лік футбольнай эліты, здзіўляе. Толькі адна перамога ў чатырох сустрэчах і 5 набраных ачкоў з 12. Іх бамбардзір Габрыэль Батыстута адкрыў лік, а мяч у адказ у вароты гаспадароў забіў са штрафнога... варатар зборнай Парагвая Хасэ Луіс Чылавэрт. На мінулым тыдні Чылавэрт заняў трэцяе месца паводле апытання спецыялістаў па вызначэнні лепшага варатара свету. А ў 1995 годзе менавіта парагваец быў названы лепшым. Цяпер гэты ганаровы тытул атрымаў варатар чэмпіёнаў Еўропы — зборнай Германіі Андрэас Кёпке. Паміж ім і Чылавэртам уклініўся англічанін Дэвід Сімэн.

### ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

У 19-м туры вельмі агрэсіўна ў адносінах да гаспадароў былі настроеныя госці. Мяркуйце самі: «Тарпеда» (Магілёў) — «Белшына» (Бабруйск) — 1:6, «Днепр» (Магілёў) — ФК Маладзечна — 1:3, «Дынама» (Брэст) — «Дынама» (Мінск) — 1:2, «Шахцёр» (Салігорск) — «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — 0:1, «Абутнік» (Ліда) — «Ведрыч» (Рэчыца) — 0:1, «Лакаматыў-96» (Віцебск) — «Атака-Аўра» (Мінск) —1:1, «Тарпеда» (Мінск) — МВКЦ (Мазыр) — 1:1.

Вынік апошняга матча прывёў да змены лідэра нацыянальнага чэмпіянату: МВКЦ саступіла «святое месца» мінскім дынамаўцам. Напрыканцы гульні ў справу ўмяшаліся балельшчыкі, незадаволеныя тым, што арбітр з Оршы Сухавараў дадаў да 90 мінут яшчэ пяць! Але МВКЦ ўсё роўна не забіў. Скажам так: не злавілі — не злодзей, але дзіўна, што шматлікія факты недасканалага судзейства менавіта ў матчах мазыран не трывожаць Беларускую федэрацыю футбола, яе дысцыплінарна-тэхнічную камісію.

Турнірная табліца прыняла наступны выгляд:

| | Гульні | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. «Дынама» (Мінск) | 19 | 48 |
| 2. МВКЦ | 19 | 47 |
| 3. «Белшына» | 19 | 38 |
| 4. «Атака-Аўра» | 17 | 36 |
| 5. «Лакаматыў-96» | 19 | 32 |
| 6. «Дынама-93» | 17 | 31 |
| 7. «Нафтан-Дэвон» | 18 | 30 |
| 8. ФК Маладзечна | 19 | 29 |
| 9. «Днепр» | 19 | 25 |
| 10. «Дынама» (Брэст) | 19 | 20 |
| 11. «Тарпеда» (Мінск) | 19 | 17 |
| 12. «Нёман» | 18 | 16 |
| 13. «Абутнік» | 19 | 13 |
| 14. «Шахцёр» | 19 | 13 |
| 15. «Тарпеда» (Магілёў) | 19 | 10 |
| 16. «Ведрыч» | 19 | 9 |

### ХАКЕЙ: КУБАК СВЕТУ

Другая параза на рахунку ў зборнай Расіі, якую ўпэўнена перамагла зборная ЗША — 2:5. Канадцы ж зноў з вялікімі цяжкасцямі і не без дапамогі сваіх арбітраў пераадолелі супраціўленне славакаў — 3:2. У паядынку, які нічога не вырашаў, пераможца амерыканскай групы каманда ЗША выйграла ў аўтсайдэра — каманды Славакіі — 9:3. Такім чынам, у паўфінал адразу выйшлі зборныя Швецыі і Злучаных Штатаў Амерыкі, а яшчэ два вакантныя месцы будуць аспрэчваць хакеісты Фінляндыі і Расіі, Канады і Германіі.

Няўдачу расіян на першым этапе можна растлумачыць няўдзелам у турніры з-за траўмы Паўла Бурэ і сталым узростам ключавых ігракоў: Вячаславу Фяцісаву — 38, Ігару Ларыёнаву — 36...

### ТЭНІС: US OPEN

Апошні ў гэтым годзе турнір «Вялікага Шлему» выйшаў на фінішную прамую. У чвэрцьфінале ў мужчын практычна ўсе лідэры сусветнага тэніса — першая ракетка свету Піт Сампрас, другая — Томас Мустэр, трэцяя — Майкл Чанг, чацвёртая — Горан Іванішавіч. Дарэчы, Іванішавіч выбіў з турніру ўкраінца Андрэя Мядзведзева. Зноў у добрай форме Сампрас, які пераадолеў паласу няўдачаў, што зацягнулася больш чым на паўгода.

У жанчын усе чакаюць паўтарэння леташняй барацьбы за першае месца паміж Штэфі Граф і Монікай Сэлеш. Мінчанка Наташа Зверава ў пары з Джы Джы Фернандэс працягвае барацьбу ў турніры жаночых пар.

### ВЕЛАСПОРТ: ІНДУРАЙН СЫХОДЗІЦЬ?

Пяціразовы пераможца «Тур дэ Франс», алімпійскі чэмпіён Атланты Мігель Індурайн, магчыма, завершыць свае выступленні на шасейных трасах свету. Дон Мігель вельмі імкнуўся да шостай перамогі ў «Туры», але, як і яго папярэднікам Жаку Анкецілю і Эдзі Мерксу, таксама пяціразовым чэмпіёнам гэтай гонкі, зрабіць гэта яму не ўдалося.

**Сямён ПЛОЦ**

ЗДАРЭННІ

## Самагубства двух начальнікаў

**1 верасня ў Рагачоўскім раёне ў лесе каля вёскі Кашары знайшлі павешаным 49-гадовага старшыню мясцовага калгаса «Ленінскае жыццё» Аляксандра Боксбергера.**

А 2 верасня гэтаксама скончыла жыццё і дырэктар Пінскага філіяла камерцыйнага банка «Поиск» 50-гадовая Ніна Меранчук. Цела жанчыны знайшлі ў адным са службовых памяшканняў банка пасля абедзеннага перапынку. Побач знаходзілася запіска, у якой яна прасіла ў людзей прабачэння за свой учынак. Па версіі пінскай міліцыі, Н.Меранчук павесілася з прычыны «нервовай дэпрэсіі».

**Анатоль МІРСКІ**

## Стралялі ў сабаку, а трапілі ў чалавека

**Гэта здарылася днямі ў Слуцку падчас адстрэлу бадзяжных сабак.**

Жыхару горада Аляксандру Камінскаму куля з дробнакаліберней стрэльбы слізганула па галаве, калі ён даставаў веласіпед з гаража. Дзякуй Богу, скончылася драпінай, а калі б куля трапіла крыху ніжэй?

**Анатоль РАМАНОВІЧ**

## Выбух бомбы пад Магілёвам

**Выбух авіябомбы каля вёскі Буйнічы Магілёўскага раёна прынёс жыхарам значныя страты.**

Гэтая 250-кілаграмовая бомба ляжала ў зямлі з часоў апошняй вайны. Для яе ліквідацыі з Мінска была выкліканая спецгрупа сапёраў «Аколіца». Жыхароў вёскі пра аперацыю не папярэдзілі. У выніку выбуху павыляталі шыбы ў будынку мясцовага ПТВ і прыватных дамах, пашкоджаныя дахі, вадаправод, каналізацыя. Некаторых людзей выбуховай хваляй збіла з ног, але, на шчасце, нікога не параніла. Паводле словаў работнікаў упраўлення капітальнага будаўніцтва, страты папярэдне ацэньваюцца ў 70 млн. рублёў, толькі шкла было выбіта каля 500 кв.м.

Некаторыя жыхары вырашылі дамагацца пакрыцця стратаў праз суд.

**Іван ЗАСАДА**

## Гараць білеты і камп'ютэры

**Фінансавы скандал у тралейбуснай гаспадарцы Магілёва набывае дэтэктыўны характар.**

Як паведамляла ўжо СВАБОДА ў № 53, адна жанчына-кандуктар заявіла ў міліцыю, што начальства прымушае іх прадаваць пасажырам «нелегальныя» квіткі, якія не прайшлі ўлік у бухгалтэрыі.

Неўзабаве пасля таго, як тралейбусную гаспадарку пачалі правяраць міліцыя і кантрольныя службы, у адміністрацыйным будынку здарыліся два пажары. Пры гэтым дашчэнту згарэў пакой, дзе знаходзіліся дакументы па продажы праязных білетаў, а таксама камп'ютэры, у якіх захоўваліся звесткі аб продажы квіткоў. Заўважым, што за 26 год існавання будынка пажараў тут не было.

З неафіцыйных крыніц карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што кантралёры выкрылі незаконныя даходы ў 30 мільярдаў рублёў. Амаль адразу былі звольненыя галоўныя бухгалтары тралейбуснай гаспадаркі і ўпраўлення фінансаў гарвыканкама. Але малаверагодна, каб менавіта бухгалтары распараджаліся такімі вялікімі сумамі. Хутчэй за ўсё, нітачкі вядуць вышэй, але кіраўніцтва горада захоўвае ўпартае маўчанне, нібыта нічога не адбываецца. Маўчаць і кантралёры, якія ў падобных сітуацыях звычайна адразу паведамляюць усім пра свае поспехі ў барацьбе з эканамічнай злачыннасцю.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

КУЛЬТУРА

## Ордэн Адраджэння – Сакрату Яновічу

**Беларускі пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч, які жыве ў Польшчы, 3 верасня адсвяткаваў сваё 60-годдзе.**

*«Мне ажно дзіўна, як шмат я пражыў і як шмат стварыў»,* — сказаў ён у інтэрв'ю Беластоцкаму радыё. За выбітныя літаратурныя заслугі прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі ўзнагародзіў Яновіча ордэнам Адраджэння. Сябра таварыства беларускіх літаратараў у Польшчы з 1970 г., Сакрат Яновіч выдаў некалькі кніжак публіцыстыкі (у тым ліку «Беларусь, Беларусь...» — нататкі з падарожжа па Бацькаўшчыне), раманаў, п'ес, вершаў. Але найбольш аўтар ганарыцца сваімі апавяданнямі, якія на Беласточчыне любоўна называюць «сакрацікамі».

**Аляксандр НАВІЦКІ,** *Варшава*

## Бізонаў мастачка назвала зубрамі

**У каралеўскім палацы ў Гродне адчынілася мастацкая выстава твораў беларускі Тамары Стагановіч, якая жыве ў Амерыцы.**

Выстава называецца «Амерыка — мая Амерыка». Карціны сп-ні Стагановіч упершыню ў Беларусі выстаўлялі два гады таму ў Мінску. Сёння часы зусім іншыя. Стаўленне ўладаў да эмігрантаў стала рэзка адмоўным — як у савецкія часы. На гэтай выставе праглядаецца новая сімволіка. Напрыклад, на адным палатне намаляваная рэзервацыя для індзейцаў на мёртвай гары. На другім — скала, на якой высечаныя галовы чатырох самых славутых амерыканскіх прэзідэнтаў, — як міжвольны намёк нашаму «ўсенароднаабранаму». А вакол статуі Свабоды размясціліся беларускія дзяўчаты ў народных строях. Дарэчы, багата ілюстраваны буклет выставы адмыслова выдадзены на, скажам так, эміграцкім варыянце беларускай мовы і таксама па-англійску.

Цяперашняя выстава Тамары Стагановіч арганізаваная на салідным узроўні: апроч Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея і Нацыянальнай мастацкай галерэі да падзеі спрычыніліся амбасада ЗША і Беларускі фонд Сораса. На адкрыцці быў зачытаны ліст ад мастачкі, якая спадзяецца ў будучыні наведаць Гродна і наладзіць новую выставу — ужо пад назвай «Беларусь — мая Беларусь». Самай «беларускай» з выстаўленых цяпер карцін мне ўяўляецца тая, на якой амерыканскія бізоны пераходзяць рэчку ў Елаўстоўнскім нацыянальным парку ў штаце Ваёмінг. Мастачка настальгічна назвала іх зубрамі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Масквічы ўшанавалі памяць Алеся Адамовіча

**У Маскве адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі Алесю Адамовічу.**

На будынку ў Вялікім Казіхінскім завулку, дзе апошнія гады свайго жыцця жыў знакаміты беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Алесь Адамовіч, 3 верасня, у дзень ягонага нараджэння, устаноўленая вялікая мемарыяльная дошка. Ва ўрачыстым мерапрыемстве ўзялі ўдзел Сяргей Філатаў, Аляксандр Якаўлеў, іншыя вядомыя расійскія палітыкі, пісьменнікі, дзеячы кіно, прадстаўнікі беларускае дыяспары ў Маскве. З гэтай нагоды ў Маскву прыехалі сваякі нашага славутага земляка, у тым ліку і дачка Алеся Міхайлавіча. Было сказана шмат цёплых словаў, не забыліся выступоўцы і на Адамовіча-палітыка, прыгадаўшы, што менавіта Адамовіч прадракаў Вандэю ў Беларусі і прыход прафашысцкага рэжыму, які існуе ў гэты момант на зямлі, дзе не знайшлося месца гэтаму таленавітаму чалавеку.

У свой час А.Адамовіч быў ганаровым старшынёй Маскоўскага таварыства беларускае культуры імя Ф.Скарыны. Алесь Міхайлавіч пахаваны на Капыльшчыне, побач з маці, але памяць аб ім будзе захоўвацца далёка ад Радзімы. Прыкра і сорамна, што беларускія ўлады дагэтуль не сабраліся аддаць даніну яго памяці.

**Аляксей БУКА,** *Масква*

## Гродзенцы атрымалі новую газету

**У Гродне з'явілася новая газета, што ў сённяшні час вялікая рэдкасць.**

Новае выданне мае сімвалічную назву «Правый берег», заснаваў яго Саюз прадпрымальнікаў Гродзенскай вобласці. Пакуль газета незарэгістраваная, тыраж яе мінімальны — 499 экземпляраў.

Аўтары публікацый спадзяюцца, што ў будучыні частку чыноўнікаў у «вертыкалі» заменяць прадпрымальнікі. Яны, маючы дывідэнды ад сваіх фірмаў, не будуць схільныя да хабарніцтва — як чыноўнікі, якім зарплаты не хапае на жыццё. Наконт рэферэндуму ў газеце выказваецца цвярозае меркаванне, што Канстытуцыя — зусім не той дакумент, які варта выносіць на масавае абмеркаванне ў такі складаны і неспакойны час. *Хіба ж хворыя ў псіхіятрычнай бальніцы, якіх там большасць, лепш за дактароў ведаюць, як і чым трэба лячыць?* — рытарычна пытаецца аўтар публікацыі.

**С.М.**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод — 45.320)
Нумар падпісаны ў друк 05.09.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 268